# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

23 кастрычніка 1996 г. серада, № 255 (23058)

## РОЗГАЛАС

*ЦЭНЫ*

### ЖЫЦЦЁ Ў ЦЭНАХ НА ПРАДУКТЫ ХАРЧАВАННЯ

**Следам за афіцыйным ростам сярэдняй заработнай платы, што для некаторых слаёў насельніцтва зусім не адчувальна, на жаль, рэальна растуць цэны ў дзяржаўных магазінах. Маючы аднолькавую суму грошай у кашальку на пачатку восені і ў кастрычніку, гаспадыня з асноўных прадуктаў харчавання магла тады і зараз набыць хлеб і батон (зразумела, звычайных гатункаў), малако і кефір, соль і цукар, гарэлку і мінеральную ваду, а таксама кавалак варанай каўбасы. Нехта, магчыма, адзначыць, што не так ужо і блага. Але, улічваючы, што «спажывецкая карзінка» складаецца не з аднаго дзесятка прадуктаў харчавання, толькі хлебам ды малаком сыты не будзеш.**

Разам з тым кастрычнік прынёс з сабой і паніжэнне цэн на некаторыя харчовыя прадукты. У першую чаргу гэта датычыцца агародніны. Зараз самы спрыяльны час для назапашвання на зіму бульбы, буракоў, капусты і цыбулі, цэны на якія зменшыліся на 10—47 працэнтаў. Крыху менш «зайцоў» у гэтым месяцы давядзецца выкласці за некаторыя віды мясных і рыбных кансерваў і, што зусім нечакана, — за растваральную каву. Апошняя патаннела ў сярэднім на 14 працэнтаў.

Адышло ў мінулае сёлетняе лета, а разам з ім скончылася і пара попыту на прахаладжальныя напоі. Вось і адступілі крыху назад цэны на «Фанту» і «Колу».

Тым не менш, цэннікі ў крамах часцей мяняюцца ў бок павышэння. Пастулова і быццам бы, на першы погляд, зусім не заўважна растуць цэны на мяса і птушку практычна ўсіх гатункаў (на 4—14 працэнтаў). У кастрычніку значна ўдараць па кішэні пакупніка некаторыя віды круп, мукі вышэйшага гатунку (кошт з 8,7 тыс. рублёў узрос амаль да 12 тыс. рублёў), індыйскага чаю (рост складае больш за 50 працэнтаў), свежамарожанай рыбы (цана павялічылася на 35 працэнтаў). Калі ў сям'і ёсць хаця б адзін курэц — гэта зноў такі значна адаб'ецца на фінансавым дастатку. Гэты член сям'і хутчэй адмовіцца ад чаю з цукрам (на большыя ахвяры, зразумела, не пойдзе), чым кіне шкодную звычку. А тым часам тытунёвыя вырабы айчыннай вытворчасці падаражэлі ў сярэднім на 35 працэнтаў. Пра замежныя цыгарэты, цана на якія расце разам з курсам долара, тут і казаць няма чаго.

**Сяргей КУРКАЧ.**

### «ЛЕТНІ» ЧАС НАРЭШЦЕ ЗАКАНЧВАЕЦЦА

Служба часу Белстандарта напамінае, што ў Рэспубліцы Беларусь адначасова, у адзіныя ўзгодненыя тэрміны з дзяржавамі, якія ўваходзяць у краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Еўрапейскага эканамічнага супольніцтва, 27 кастрычніка 1996 года ў 3 гадзіны заканчваецца перыяд дзеяння летняга часу пераводам стрэлак гадзінніка на адну гадзіну назад.

### ПАВОДЛЕ ДАНЫХ МІНЭКАНОМІКІ, У 1997 ГОДЗЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ЗАХАВАЕЦЦА КУРС НА ПРАВЯДЗЕННЕ ЎЗВАЖАНАЙ ЦЭНАВАЙ ПАЛІТЫКІ

**Як паведамілі БелаПАН у Камітэце цэн Міністэрства эканомікі, у будучым годзе захаваецца дзяржаўнае рэгуляванне цэн і тарыфаў на сацыяльна значныя тавары.**

У першую чаргу — на хлеб масавых гатункаў, малако і малочна-кіслыя прадукты, дзіцячае харчаванне, тавары для дзяцей, камбікорм для продажу насельніцтву. Захаваецца таксама рэгуляванне цэн і тарыфаў на прадукты абароннага значэння, на медыкаменты, гарэлку белую і спірты, іншую алкагольную прадукцыю.

На пытанне карэспандэнта БелаПАН, якімі будуць у 1997 годзе тарыфы на пасажырскія перавозкі, у Камітэце цэн паведамілі: улічваючы, што перавозкі (унутрыгарадскія, прыгарадныя і ў мясцовых зносінах) з'яўляюцца сацыяльна значнымі, рост тарыфаў магчымы толькі ў выпадку павелічэння памеру заработнай платы.

Разам з тым у будучым годзе прадугледжваецца далейшая лібералізацыя цэн. У прыватнасці, будуць прапрацоўвацца пытанні аб паэтапным збліжэнні тарыфаў у Расіі і Беларусі на перавозку пасажыраў і масавых грузаў, на паслугі сувязі і паслугі па энергазабеспячэнню.

**Святлана ЮЗІК, БелаПАН.**

*ЗДАРЭННІ*

### ПАРУШАЛЬНІКІ ГРАНІЦЫ ЕЗДЗЯЦЬ НА ТАКСІ

Адразу шэсць парушальнікаў-іншаземцаў, якія мелі намер перайсці беларуска-польскую граніцу, затрыманы на тэрыторыі Гродзенскага раёна ў ходзе аперацыі «Рубеж-96». Яны аказаліся грамадзянамі Індыі і Пакістана, а прыехалі ў нашу краіну з Масквы.

Як высветлілася ў ходзе расследавання, усе шасцёра без якіх-небудзь дакументаў накіроўваліся на двух таксі ў бок аднаго з прыгранічных участкаў Брэсцкай вобласці, дзе іх павінны былі сустрэць праваднікі. Аднак ажыццяўленню гэтага плана перашкодзіў міліцэйскі нарад.

Паводле паведамлення, атрыманага карэспандэнтам БЕЛТА ў Гродзенскім пагранічным атрадзе, толькі сіламі гэтага падраздзялення з пачатку бягучага года затрымана каля 300 парушальнікаў граніцы. Прыкладна кожны трэці з іх з'яўляецца выхадцам з афра-азіяцкага рэгіёна.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

*ГРОШЫ*

### ДОЛАР АДПУСЦІЛІ ДА 20.150 РУБЛЁЎ

**На валютным рынку зноў змяненні. Нарэшце, дачакаўшыся новай тэлеграмы з Нацбанка, камерцыйныя банкі змянілі курс продажу і пакупкі наяўнага долара ў абменных пунктах. Зразумела, у бок павышэння.**

Афіцыйны дазвол, які памяняў павышаючы каэфіцыент з 1,2 да 1,3, падняў максімальна магчымую каціроўку долара, якую зараз могуць устанаўліваць банкі, да 20.150 рублёў за адзін долар. Некаторыя фінансавыя ўстановы гэта ўжо скарысталі, у іх абменных пунктах курс продажу «завіс» на адзнацы 20.150 BYB.

Дарэчы, на «чорным» рынку безнаяўныя рублі можна ператварыць у наяўную валюту па курсу 20.000 плюс-мінус сотню-другую рублёў. Гэта, аднак, на думку многіх, часовая з'ява, і долар яшчэ возьме сваё. Між іншым, пры тым, што максімальная цана продажу ўжо дасягнула мяжы ў 20.150 рублёў, скупляць па максімуму валюту банкі не спяшаюцца: курс куплі вагаецца ў межах ад 18.800 да 19.200 рублёў за долар. Прынамсі, станоўчых змяненняў у курсе СКВ чакаць сёння не прыходзіцца.

Як вядома, пастановай Кабінета Міністраў і Нацбанка банкам прадпісана да 20 кастрычніка выдаць крэдыты прадпрыемствам на пагашэнне запазычанасці па зарплаце. Гэта аніякага аптымізму ў адносінах да перспектыў наяўнай валюты не надае. Нават калі ўлічыць той факт, што людзі, атрымаўшы грошы, частку «распусцяць» на вяртанне даўгоў, а нешта пакінуць сабе і на харчаванне. Магчыма, ужо ў хуткім часе нас чакае звыклае: «Валюты ў продажы няма», і на афіцыйным узроўні зноў будуць перагледжаць павышаючы каафіцыент.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

### АДНЫМ СКАЗАМ

● У Мінску з пачатку года за з'яўленне на працоўных месцах у **нецвярозым выглядзе** затрымана каля сямі тысяч работнікаў.

● У гэтым годзе на беларускай чыгунцы **выразана і пашкоджана** звыш тысячы метраў кабелю сувязі, **украдзена або сапсавана** больш чым 130 прыбораў, каля 40 трансфарматараў і 30 акумулятараў.

● У мінулым годзе на тэрыторыі Расіі **загінулі 34 журналісты**, за 9 месяцаў гэтага года там было **забіта 8** прадстаўнікоў гэтай прафесіі.

● За 9 месяцаў бягучага года ў рэспубліцы ўчынена **777 наўмысных забойстваў,** што на 14 менш, чым за адпаведны перыяд 1995 года.

● На сённяшні дзень за парушэнне антыалкагольнага заканадаўства прыцягнуты **да адказнасці 3913 непаўналетніх**, з іх каля тысячы пастаўлены на ўлік у наркалагічныя кабінеты.

● Па словах Генадзя Карпенкі, даходы больш чым **аднаго мільёна** грамадзян Беларусі ўдвая ніжэйшыя за пражытачны мінімум.

● У студзені—верасні аб'ём **рэалізаванай прадукцыі** быў меншы, чым выраблена й, на 6,1 працэнта (у студзені—жніўні — на 7,3 працэнта).

● За 8 месяцаў гэтага года выпуск **тавараў народнага спажывання** склаў 50,8 трыльёна рублёў і павялічыўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага на 1,1 працэнта.

## НАША БУДУЧЫНЯ — У НАШЫХ РУКАХ

### З заключнага слова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі на Усебеларускім народным сходзе 20 кастрычніка

Мы з вамі, сказаў кіраўнік дзяржавы, звяртаючыся да ўдзельнікаў і гасцей форуму, перажылі два хвалюючыя дні, якія, я перакананы, будуць мець гістарычнае значэнне для лёсу нашай Радзімы. Не апраўдаліся надзеі тых, хто прадказваў сходу правал. Наадварот, ён прадэманстраваў узор высокай рэзультатыўнасці ў рабоце, грамадзянскасці і адказнасці за нашу сумесную будучыню.

Усе мы свабодныя ў выбары рашэнняў, свабодныя ў сваіх учынках. У нас могуць быць і ёсць адрозненні ў поглядах па канкрэтных пытаннях. Гэта нармальна і натуральна. Нам не патрэбен «усеагульны «одобрямс», як гэта было некалі, падкрэсліў Прэзідэнт. Але мы адзіныя ў імкненні разам, усёй грамадой, пераадолець сённяшнія цяжкасці і тым самым забяспечыць лепшую будучыню нашым дзецям і ўнукам.

Памыліліся і тыя, хто высакамерна адмаўляў народу ў здольнасці ўдзельнічаць у пошуку рашэнняў па праблемах вялікай дзяржаўнай значнасці.

Галоўны рэзультат работы нашага сходу, які вынікае з пазіцыі большасці дэлегатаў, а значыць і грамадзян Беларусі, якія паслалі вас сюды, — падтрымка канстытуцыйнай рэформы і Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі да 2000 года, адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Вы ведаеце ў дэталях папраўкі і дапаўненні да Канстытуцыі. Яны не дыскрэдытуюць ні адну з галін улады, а, наадварот, ствараюць кожнай з іх новыя магчымасці для прадукцыйнай работы. Але павышаецца і адказнасць. Скажам, урад атрымлівае намнога больш правоў і самастойнасці. Але і адказваць перад народам ён будзе ў поўнай меры.

Удзячны ўсім вам, сказаў Прэзідэнт, за падтрымку ў пытанні аб рэферэндуме. Хачу яшчэ раз падкрэсліць: рэферэндум вымушаны, але адзіны ва ўзнікшай сітуацыі спосаб цывілізавана, самым дэмакратычным шляхам захаваць мір і стабільнасць у Беларусі.

Толькі канстытуцыйная рэформа створыць у нас нармальную рабочую абстаноўку, пры якой можна будзе спакойна жыць і вырашаць праблемы. Калі мы не ўнясём змяненні ў Канстытуцыю, то палітычныя авантурысты будуць пастаянна трымаць краіну і народ у напружанні, чакаючы зручнага моманту для захопу ўлады. Аб гэтым вам пераканаўча расказалі і сакратар Савета бяспекі, і іншыя дэлегаты. Паглядзіце, гэтыя палітыканы ўжо стварылі ценявы кабінет і нават грызуцца паміж сабой — не могуць падзяліць партфелі. Яны чакаюць толькі зручнага выпадку для атакі на Прэзідэнта. А зручны выпадак для іх, — падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, — гэта пагаршэнне нашага з вамі жыцця, рост цэн, адсутнасць цяпла ў дамах. Тады яны і пачнуць рашучую атаку на Прэзідэнта.

Нашы інтарэсы і інтарэсы гэтых паноў не могуць супасці. Мы з вамі хочам працаваць і жыць лепш — ім для дасягнення жаданай мэты трэба, каб у краіне былі і голад, і холад.

Я рад, сказаў далей Аляксандр Лукашэнка, што вы падтрымалі асноўныя ідэі прапанаванай на ваш разгляд Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Гэта вельмі канкрэтны дакумент. Галоўнае — усё, што мы намецілі — выканальнае. Але майце на ўвазе, усім нам трэба будзе закасаць рукавы.

Наша шчасце, што мы захавалі сваю эканоміку, сельскую гаспадарку. Паглядзім на іншыя краіны, якія, як і мы, апынуліся перад неабходнасцю глыбокіх сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў. Прамысловы і сельскагаспадарчы патэнцыял некаторых з іх разбураны. Так, магазіны запоўнены імпартным таварам, але людзі практычна не заходзяць туды, бо ім няма за што купляць гэтыя тавары.

Не вялікая мудрасць заваліць рынак імпартным таварам. Цяжэй вырабіць свае тавары, прадаць іх і на выручаныя грошы даць людзям магчымасць купіць усё, што ім трэба. Мы пойдзем па гэтаму, другому шляху і будзем жыць сваім розумам і працай.

Па колькасці і глыбіні выказаных новых канструктыўных ідэй і прапаноў наш сход, адзначыў Прэзідэнт, з'яўляецца унікальным у сучаснай беларускай гісторыі і дасць фору многім сходам прафесіянальных палітыкаў. У абмеркаванні палажэнняў даклада, праектаў дакументаў прынялі ўдзел 30 чалавек, удзельнікі сходу накіравалі ў рэдакцыйную камісію звыш тысячы пісьмовых прапаноў і заўваг.

Няхай сённяшні форум будзе прыкладам і дакорам для тых паноў, якія ва ўтульных кабінетах і офісах ужо даўно забыліся, на што здольны народ, аб дабрабыце якога на словах яны так клапоцяцца.

Абяцаю вам, заявіў кіраўнік дзяржавы, нічога са сказанага тут не будзе пакінута без увагі, ні адна канструктыўная прапанова, ні адна прадукцыйная ідэя. Над іх рэалізацыяй мы будзем працаваць сур'ёзна і настойліва.

Затым Прэзідэнт коратка спыніўся на некаторых пытаннях, закранутых у выступленнях і пададзеных прапановах.

Цалкам заканамерна, сказаў ён, што па пытанню аб зямлі выказваюцца розныя думкі. Гэта балючае і супярэчлівае пытанне. Яшчэ ў пачатку стагоддзя была вялікая спрэчка паміж Львом Талстым і Сталыпіным аб прыватнай уласнасці на зямлю. І сёння ў розных краінах гэта пытанне вырашаецца па-рознаму.

Інтарэсы ўсіх тут супасці не могуць. Упэўнены, зыходзіць мы павінны з інтарэсаў большасці насельніцтва, асабліва тых, хто гэту зямлю апрацоўвае. Таму няхай людзі вырашаць гэта пытанне самі, на рэферэндуме.

Прапановы па змяненню назвы і функцый органаў прадстаўнічай улады я таксама лічу абгрунтаванымі. Усе яны будуць улічаны.

Я цалкам згодны, адзначыў кіраўнік дзяржавы, з генеральным дырэктарам Гродзенскага ВА «Азот» Валерыем Валянцінавічам Ланговым, іншымі дэлегатамі, якія лічаць, што нам рана хаваць нашу буйную прамысловасць. Пры адпаведнай арганізацыі справы яна здольна не толькі выжыць, але і прыносіць рэспубліцы вялікі даход. Думаю, што ў ходзе нашай сумеснай работы па рэалізацыі палажэнняў Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі мы абавязкова вырашым гэту праблему.

Усёй душой падтрымліваю думку, выказаную вядомым у рэспубліцы будаўніком Героем Сацыялістычнай Працы Леанідам Афанасьевічам Тозікам: «Хто не будуе, той не жыве. А мы будуем — значыць будзем жыць».

Не магу не пагадзіцца і з думкай Валерыя Аркадзьевіча Чардынцава і іншых педагогаў аб вялікай ролі адукацыі і навукі для нашай рэспублікі. Прэзідэнт і ўрад не аслабяць увагі да развіцця гэтай сферы. Ужо намечаны і абавязкова будуць рэалізаваны меры па развіццю навукі, удасканаленню зместу і матэрыяльна-тэхнічнай базы ўсіх узроўняў адукацыі, павышэнню прэстыжу і аплаты нялёгкай навуковай і педагагічнай працы.

Беларусь была ў Савецкім Саюзе самай высокаінтэлектуальнай рэспублікай. Мы не маем права здаваць дасягнутыя пазіцыі ў сферы навукі і адукацыі. У XXI стагоддзі інтэлект будзе самым каштоўным капіталам.

Вяртаючыся да палітычнай сітуацыі, якая складваецца ў нас, хачу яшчэ раз сказаць, што ў Прэзідэнта няма іншай апоры, акрамя вас, акрамя народа. У мяне няма ні партыі, ні грошай, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Глядзіце, які накат ідзе на беларускага Прэзідэнта ў нас дома і з-за мяжы. Я вытрымаю любыя нападкі і націск, толькі б было добра беларускаму народу, заявіў кіраўнік дзяржавы.

Наш сход, адзначыў ён, прадэманстраваў жыццёвасць такой формы народнай дэмакратыі і павінен заняць дастойнае месца ў жыцці грамадства. Думаю, ён здольны стаць найбольш дакладным выразнікам думкі народа па важнейшых праблемах грамадскага развіцця.

Таму я прапаную праз пяць гадоў правесці чарговы сход, каб падвесці на ім вынікі выканання Праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі. Я падкрэсліваю: чарговы. Будзем збірацца і на нечарговыя, калі ў гэтым будзе неабходнасць.

У заключэнне Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сказаў:

— Наша грамадства будзе жыць сваёй працай і мудрасцю свайго народа. І яго воля, выказаная сёння вамі на гэтым сходзе, — для мяне закон. І заўсёды ў цяжкія хвіліны, а іх было і будзе нямала, заўсёды буду звяртацца да вас па параду. Дзякуй вам за вашу мудрасць, за разуменне і падтрымку.

Прашу вас данесці ўсё пачутае тут да тых калектываў, якія паслалі вас сюды.

Запэўніваю вас — горшае мінула. Няма падстаў для адчаю і безнадзейнасці. Наша будучыня — у нашых руках. Я глыбока веру ў стваральныя сілы і мудрасць народа.

Жадаю вам добрага здароўя, міру і дабрабыту вашым сем'ям, усім грамадзянам Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

## РЫНАЧНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ — У РАНГ ЗАКОНА

**Якую эканоміку мы павінны будаваць, што ахоплівае сабой паняцце «сацыяльная рыначная эканоміка», якое ўсё часцей агучваецца апошнім часам?**

Адказ на гэтыя і іншыя пытанні, можна меркаваць, дала Камісія ВС па эканамічнай палітыцы і рэформах, узначальваемая Васілём Шлындзікавым, якая падрыхтавала законапраект «Аб эканамічнай палітыцы ў Рэспубліцы Беларусь». У законапраекце паняцце «сацыяльная рыначная эканоміка» ўвязваецца з палітычнай і сацыяльнай згодай і ўладкаваннем «праз аб'яднанне свабоднай ініцыятывы з сацыяльным прагрэсам, якія забяспечваюцца эфектыўнасцю рыначнага механізма на базе канкурэнтнай эканомікі і сістэмай сацыяльнай абароны насельніцтва, абмяжоўваючай і карэкціруючай рыначныя механізмы, калі яны, па меркаванню грамадства (іх выбарных прадстаўнікоў), з'яўляюцца недастаткова сацыяльнымі...» Можа, і не зусім дасканалая фармулёўка (дарэчы, як відавочна, у ёй яўна робіцца пэўны рэванс у бок сацыяльных аспектаў), тым не менш, скажам так, тэорыя пытання выкладзена. Вядома, у законапраекце робіцца выбар на карысць адпаведнай мадэлі.

Варта адразу зазначыць: новы законапраект можна лічыць базавым для ўсяго зводу рыхтуемых эканамічных законаў, ён вызначае сутнасць усёй наступнай эканамічнай палітыкі. У гэтым яго галоўная асаблівасць.

Адзін з найбольш прынцыповых момантаў: законапраект прапануе зусім іншыя ў параўнанні з цяперашнімі колькасныя параметры эканамічнага развіцця, у прыватнасці, на перыяд стабілізацыі. Што гэта за параметры? За аснову прапануецца браць параметры рынкаў працы, тавараў і паслуг, грошай. На рынку працы належыць вызначаць: пэўны ўзровень мінімальнай заработнай платы ў працэнтах ад узроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту (МСБ), узровень сярэдняй заработнай платы ў працэнтах ад МСБ, узровень беспрацоўя; на рынку тавараў і паслуг — валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва, валавыя інвестыцыі, сальда экспарту-імпарту; на рынку грошай — інфляцыю.

Законапраект скіроўвае на палітыку паскоранага павелічэння долі хатніх гаспадарак у нацыянальным багацці краіны, арыентуе на паскоранае ж стварэнне фундамента рыначнай эканомікі праз прыватныя малыя прадпрыемствы, свабоднае прадпрымальніцтва і г. д., прадугледжвае пры гэтым спрошчаныя працэдуры рэгістрацыі, падаткаабкладання, вядзення бухгалтарскага ўліку, абмежавання колькасці ліцэнзуемых відаў дзейнасці... Урад і мясцовыя органы кіравання паскараюць тэмпы прыватызацыі «з мэтай стварэння крытычнай масы недзяржаўных эфектыўных прадпрыемстваў, здольных забяспечыць эканамічны рост»... Ураду таксама «прадпісваецца» забяспечыць меры па ліквідацыі прычын, якія выклікаюць інфляцыю выдаткаў, праз развіццё канкурэнцыі, зніжэнне імпартных пошлін, санацыю і рэструктурызацыю; законапраект адмяняе ўсе льготы, прынятыя па-за законам аб падаткаабкладанні, забараняе выдачу льготных крэдытаў на патрэбы, не прадугледжаныя рэспубліканскім бюджэтам. У ім сказана таксама аб абмежаванні верхніх узроўняў падаткаабкладання прадпрыемстваў, вызначаны ўзровень валавога ўнутранага прадукту, які цэнтралізуецца (да 1999 года — не вышэй за 30—35 працэнтаў), «мяняецца» практыка і метадалогія цэнаўтварэння, якія адмаўляюць затратны метад і маюць на ўвазе попыт і прапанаванне, канкурэнтаздольнасць прадукцыі ў параўнанні з сусветнымі цэнамі. Законапраект дапускае набыццё кантрольных пакетаў акцый прадпрыемстваў замежнымі інвестарамі; у ім гаворыцца аб пераходзе да рыначнага курса беларускага рубля.

Галоўная задача знешнеэканамічнай палітыкі — забеспячэнне збалансаванасці знешнегандлёвых аперацый, прычым прадугледжаны заахвочванне ў экспарце прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці, адмена адміністрацыйных абмежаванняў. Варта асобна вылучыць наступнае палажэнне: не дапускаецца ўвядзенне імпартных падаткаў і збораў, калі гэта вядзе да падаражання мінімальнага спажывецкага бюджэту ці да страты канкурэнтаздольнасці нашай канчатковай прадукцыі за мяжой.

Палітыку сацыяльнай абароны мяркуецца праводзіць зыходзячы з рэсурсаў, створаных рыначнай эканомікай, праз пенсіённае і медыцынскае страхаванне, сацыяльныя дапамогі і дапамогі па беспрацоўю, кампенсацыйныя выплаты з мэтай гарантавання пэўнага ўзроўню жыцця. Пры гэтым намечана ажыццявіць пераход ад існуючай сістэмы пенсіённага і медыцынскага фінансавання да страхавой на працягу трох гадоў. Разам з тым прадугледжваюцца мінімальныя пенсіі, якія мяркуецца паступова давесці да ўзроўню мінімальнага спажывецкага бюджэту; на працягу двух гадоў да 0,5 МСБ належыць дарасці дапамозе па беспрацоўю...

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ДЭПУТАТЫ ЧАКАЮЦЬ АД ПРЭЗІДЭНТА ПРАБАЧЭННЯЎ

**Вечарам 21 кастрычніка аднавіла работу сесія беларускага парламента. Прыкладна палова двухгадзіннага пленарнага пасяджэння была прысвечана абмеркаванню такога мерапрыемства, як Усебеларускі народны сход. Частка дэпутатаў, якія туды не запрашаліся, але потым былі абвінавачаны ў адсутнасці на форуме, выказвалі сваё абурэнне заявай Прэзідэнта і заклікалі адрэагаваць на гэта канкрэтным чынам.**

У выніку ўчора 62 дэпутаты Вярхоўнага Савета падтрымалі ініцыятыву члена Прэзідыума Сямёна Домаша і падпісаліся пад адкрытым пісьмом да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, у якім, у прыватнасці, гаворыцца: «На другі дзень 20 кастрычніка дэпутаты, якія не мелі спецыяльных пропускаў, на сход дапушчаны не былі. Мы заяўляем, што запрашэння не атрымлівалі і прапануем вам папрасіць прабачэння за выказанае ў наш адрас абвінавачанне». Праўда, папярэдне ў праекце пісьма гаварылася, што калі Прэзідэнт гэтага не зробіць, то дэпутаты захоўваюць за сабой права звярнуцца ў суд.

Сярод асобных выступленняў парламентарыяў трэба адзначыць выказванні Васіля Шлындзікава, які абвяргаў абвінавачанні Віктара Шэймана, што датычыліся парушэнняў на «Амкадоры», Мечаслава Грыба, які заявіў, што варыянты папраўак у Канстытуцыю, прапанаваныя Прэзідэнтам і часткай дэпутатаў, з'яўляюцца па сутнасці новымі праектамі Асноўнага закона, а значыць на рэферэндум выносіцца не могуць.

Віктар Хоміч выступіў з дэпутацкім запытам да міністра фінансаў і папрасіў паведаміць суму, якая была затрачана на правядзенне сходу, і крыніцы фінансавання. Акрамя таго ён заначыў, што дэпутатам няма сэнсу абурацца, паколькі яны не будуць пачуты сваімі выбаршчыкамі з-за адсутнасці магчымасці выказаць свае думкі па тэлебачанню. Як процідзеянне ён прапанаваў парламентарыям арганізаваць... сядзячую забастоўку на плошчы Незалежнасці да таго часу, пакуль іх не заўважаць.

Іван Пашкевіч, які прысутнічаў на сходзе і нават быў запланаваны ў спісе прамоўцаў, атрымаў рэзкую крытыку сваіх калег па парламенту за выступленне, якое насіла антыпарламенцкі характар. Дарэчы, сам І. Пашкевіч выступіў з ідэяй уключыць у парадак дня сесіі пытанне адносна разгляду рэзалюцыі Усебеларускага народнага сходу, на што яму было прапанавана аформіць гэтую заяву пісьмова. Віктар Ганчар па-ранейшаму настойваў на тым, каб дата правядзення рэферэндуму была перанесена на больш позні тэрмін, паколькі з-за адсутнасці фінансавання падрыхтоўчых мерапрыемстваў пагроза зрыву галасавання вельмі вялікая.

Анатоль Лябедзька ініцыіраваў збор подпісаў дэпутатаў для ўключэння ў парадак дня пытання аб унясенні змяненняў у дзеючую Канстытуцыю, накіраваных на ўмацаванне сацыяльнай базы і пашырэнне паўнамоцтваў урада. Па стану на 22 кастрычніка яго падтрымалі 53 чалавекі, таму раніцай Вярхоўны Савет зрабіў спробу ўключыць у парадак дня прапанову дэпутата. Аднак для станоўчага вырашэння пытання не хапіла трох галасоў. Толькі на дзённым пасяджэнні, пасля таго як было прызначана паіменнае галасаванне, прапанова А. Лябедзькі была ўключана. Такім чынам, дэпутаты заявілі аб жаданні ўнесці ў Канстытуцыю прапануемыя Прэзідэнтам папраўкі, накіраваныя на ўмацаванне сацыяльнай сферы ў краіне і наданне ўраду дадатковых паўнамоцтваў, без рэферэндуму, у межах кампетэнцыі парламента.

Што ж датычыцца заканатворчай дзейнасці, то сесія разглядала папраўкі ў шэраг законаў, сярод якіх — «Аб страхаванні», «Аб бюджэтнай сферы», «Аб насенным фондзе». Быў адобраны ў першым чытанні прапанаваны Прэзідэнтам законапраект «Аб амністыі», які прадугледжвае вызваленне з месцаў зняволення 13.832 грамадзян.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

### ЧЫГУНКА ПРАДАСТАЎЛЯЕ «ПРЫГАРАДНЫЯ» ЛЬГОТЫ

У адпаведнасці з распараджэннем кіраўніцтва Беларускай чыгункі з 1 лістапада на 50 працэнтаў менш будуць плаціць за праезд у чыгуначным транспарце прыгарадных зносінаў навучэнцы, студэнты, а таксама пенсіянеры — мужчыны, якія дасягнулі 60 гадоў, і жанчыны, якія дасягнулі 55 гадоў.

Для набыцця льготнага білета неабходна прад'явіць студэнцкі білет ці білет навучэнца вочнай формы навучання, пенсіённае пасведчанне.

Згодна з гэтым жа распараджэннем, з 1 лістапада правам бясплатнага праезду па чыгунцы ў паяздах прыгарадных зносінаў будуць карыстацца дзеці ва ўзросце да 7 гадоў.

**Прэс-служба Беларускай чыгункі — БЕЛТА.**

*АФІЦЫЙНА*

## ЯШЧЭ РАЗ «АБ УЗМАЦНЕННІ САЦЫЯЛЬНАЙ ПАДТРЫМКІ РАБОТНІКАЎ БЮДЖЭТНАЙ СФЕРЫ»

**У краіне працягваюцца выплаты прэмій работнікам бюджэтнай сферы ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 жніўня 1996 года № 340. Але, як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Міністэрстве фінансаў, у шэрагу выпадкаў узнікаюць пэўныя пытанні пры іх налічэнні. Таму спецыялісты Мінфіна падрыхтавалі канкрэтныя растлумачэнні па момантах, што найбольш часта сустракаюцца.**

Пачынаючы з трэцяга квартала выплата гэтых прэмій праводзіцца толькі работнікам устаноў і арганізацый, якія поўнасцю фінансуюцца за кошт сродкаў бюджэту. Прэмія роўная пяці мінімальным заработным платам кожнаму, незалежна ад займаемай пасады і стажу работы.

Зніжэнне памеру выплаты або пазбаўленне работніка яе можа рабіцца ў выключных выпадках пры грубым парушэнні ім выканаўчай або працоўнай дысцыпліны.

Падаходны падатак з гэтай выплаты не ўтрымліваецца. Калі дзе-небудзь па прычыне няведання яго ўтрымалі, то гэту суму работніку павінны вярнуць.

У выпадках прыняцця на работу, пераходу (звальнення) на працягу трэцяга квартала ў іншую ўстанову, арганізацыю, на прадпрыемства выплата праводзіцца па апошнім месцы работы ў бюджэтнай установе.

Выплата работнікам, якія заняты ва ўстановах і арганізацыях бюджэтнай сферы няпоўны рабочы дзень (няпоўны рабочы тыдзень) або выконваюць работу ў меншым аб'ёме, чым прадугледжана на стаўку (настаўнікі, выкладчыкі, трэнеры-выкладчыкі, кіраўнікі гурткоў і г. д.), для якіх бюджэтныя ўстановы і арганізацыі з'яўляюцца месцам асноўнай работы, праводзіцца прапарцыянальна аб'ёму выконваемай работы (адпрацаванаму часу). Што датычыць асоб, якія выконваюць аб'ём работы большы, чым на стаўку, то выплата прэміі гэтай катэгорыі работнікаў ажыццяўляецца ў межах пяці мінімальных зарплат.

Выплата прэміі асобам, якія працуюць у бюджэтнай сферы па сумяшчальніцтву або на ўмовах пагадзіннай аплаты, не праводзіцца.

Не будзе выплачана прэмія і жанчынам, якія знаходзяцца ў водпуску па догляду дзіцяці да трохгадовага ўзросту.

Пры часовай адсутнасці на рабоце на працягу трэцяга квартала па падставах, прадугледжаных заканадаўствам рэспублікі, налічэнне выплаты праводзіцца ў поўным памеры.

**БЕЛТА.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 312 РП

### АБ АКАЗАННІ ФІНАНСАВАЙ ДАПАМОГІ АСОБНЫМ ПРАМЫСЛОВЫМ ПРАДПРЫЕМСТВАМ І АБ'ЯДНАННЯМ

Мінфіну на падставе адпаведных дагавораў прадаставіць на тэрмін да 6 месяцаў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту прамысловым прадпрыемствам і аб'яднанням згодна з дадаткам для ліквідацыі запазычанасці па выплаце заработнай платы пазыкі на агульную суму 35,4 млрд. рублёў з выплатай працэнтаў за карыстанне імі ў памеры стаўкі рэфінансавання, устаноўленай Нацыянальным банкам.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

**18 кастрычніка 1996 г., г.Мінск.**

**Дадатак да распараджэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 18 кастрычніка 1996 г. № 312 рп**

ПЕРАЛІК прамысловых прадпрыемстваў і аб'яднанняў, якім выдзяляюцца пазыкі для ліквідацыі запазычанасці па выплаце заработнай платы

| | Млн. рублёў |
|---|---|
| Брэсцкі радыётэхнічны завод | 522 |
| Вілейскі завод «Зеніт» | 4312 |
| Гомельскае вытворчае аб'яднанне «Карал» | 6500 |
| Гомельскі завод «Гідрапрывад» | 2400 |
| Гомельскі завод пускавых рухавікоў | 1862 |
| Давід-Гарадоцкі электрамеханічны завод | 1384 |
| Мінскі завод шасцерань | 2500 |
| Мінскі станкабудаўнічы завод імя С. М. Кірава | 2000 |
| Навукова-вытворчае аб'яднанне «Ратон», г. Гомель | 2600 |
| Петрыкаўскі машынабудаўнічы завод «Авангард» | 180 |
| Прамыслова-аграрная фірма «Лес», г. Орша | 7000 |
| Смаргонскі завод аптычнага станкабудавання | 2831 |
| Смаргонскі агрэгатны завод | 1232 |
| Разам | 35.400 |

### УДЗЕЛЬНІКАМ ДЗЁН КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ МАЛДОВА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Дарагія сябры!

Шчыра рады вітаць удзельнікаў Дзён культуры Рэспублікі Малдова ў Рэспубліцы Беларусь.

З задавальненнем хачу падкрэсліць, што і на новым узроўні нашых дзяржаўных адносінаў даўнія, традыцыйныя сувязі народаў Малдовы і Беларусі не толькі не страцілі сваёй шчырасці і цеплыні, але і працягваюць плённа развівацца.

Культура і мастацтва, якія нясуць у сабе высокія ідэалы гуманізму і справядлівасці, заўсёды былі і застаюцца сувязнымі звёнамі ў ажыццяўленні імкненняў людзей добрай волі да духоўнага яднання.

Упэўнены, што цяперашняя сустрэча прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі дзвюх рэспублік умацуе жаданне нашых народаў будаваць узаемаадносіны ў духу разумення, згоды і брацкай падтрымкі.

Віншую ўсіх вас з гэтым цудоўным святам культуры і жадаю натхнення, поспехаў, а таксама яркіх, запамінальных сустрэч на зямлі Беларусі, якая заўсёды гатова прыняць дарагіх і жаданых гасцей.

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

23 кастрычніка 1996 года.

## РЭКЛАМАВАННЕ — СПРАВА АДКАЗНАЯ

«За парушэнне парадку рэкламавання відаў дзейнасці, што падлягаюць ліцэнзаванню, дзеянне выдадзенай рэкламадаўцу ліцэнзіі можа быць прыпынена або ён можа быць пазбаўлены такой ліцэнзіі па рашэнню органа, які выдаў ліцэнзію, ці Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый». Абзацам такога зместу Кабінет Міністраў дапоўніў пункт 10 Часовага палажэння аб парадку выдачы суб'ектам гаспадарання спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ажыццяўленне асобных відаў дзейнасці, якое зацверджана ўрадам 16 кастрычніка 1991 года. Гэта зроблена ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта краіны ад 3 чэрвеня бягучага года № 210 «Аб некаторых пытаннях ажыццяўлення рэкламнай дзейнасці».

І яшчэ адно дапаўненне — у пункт 3 пастановы Савета Міністраў ад 22 верасня 1993 года № 635 «Аб увядзенні абавязковай сертыфікацыі тавараў народнага спажывання, работ і паслуг». Яно наступнае: «Забараніць рэкламу прадукцыі, што падлягае абавязковай сертыфікацыі, але не мае сертыфіката, які пацвярджае яе належную якасць».

**БЕЛТА.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА

ПВ | месца | літар

на газету 63850 (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1997 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Чаму апынуўся на лаве падсудных нямецкі камерсант Юрген Кляйн?

Грамадзянін Германіі, 55-гадовы Юрген Кляйн, служачы прыватнай фірмы з горада Эсэна, моцна пакрыўджаны, мякка кажучы, на гродзенскіх і мінскіх работнікаў КДБ, а таксама на Гродзенскі раённы суд. Трэба ж такому здарыцца — чалавек прывозіў у нашу краіну гуманітарную дапамогу, клапаціўся аб падрыхтоўцы беларускіх майстроў кулявой стральбы да Алімпіяды ў Атланце. І вось на табе, «падзяка»: турэмная камера, допыты, лава падсудных, хоць і з адтэрміноўкай пакарання, але тры гады пазбаўлення волі, цяжкі ўдар па дзелавой рэпутацыі. Мала таго, у немца забралі яго вінчэстэр і, што яшчэ больш адчувальна, шыкоўны аўтамабіль «Таёта-Ланкрузер».

На першым пасяджэнні суда Юрген Кляйн заявіў, што «следчыя яго абылгалі» і выказаў надзею, што «ўдзельнікі працэсу не знаходзяцца пад уплывам мінскага КДБ». Таксама ён пацікавіўся, ці не з'яўляецца афіцэрам гэтага камітэта дзяржаўны абвінаваўца, апрануты ў форму з зоркамі на пагонах. Давялося Юрыю Афанасьеву тлумачыць, што форменнае адзенне ёсць не толькі ў беларускіх, але і ў нямецкіх супрацоўнікаў пракуратуры.

Пасля абвяшчэння прыгавору Юрген Кляйн у інтэрв'ю адной мясцовай газеце зазначыў, што ён не дапамагаў беларускаму кіраўніцтву або нейкім палітычным арганізацыям. І таму, маўляў, учыненыя з боку дзяржавы рэпрэсіі не зменяць яго адносінаў да беларускага народа.

Дык што, зноў рэпрэсіі, зноў брудная палітыка, ахвярамі якой становяцца ні ў чым не вінаватыя, сумленныя людзі?

Горад над Нёманам Юрген Кляйн упершыню наведаў некалькі гадоў назад дзякуючы нашай зямлячцы, якая працавала ў яго эсэнскай фірме. Аднак партнёры па бізнесу з беларускага боку аказаліся ненадзейнымі. Спачатку немец прывёз у Гродна дрэваапрацоўчыя станкі, аднак гэты заказ так і не быў аплачаны. У выніку здзелка, якая абышлася Юргену Кляйну ў 8 тысяч долараў, сарвалася. Такі ж фінал напаткаў і спробу наладзіць у Гродне вытворчасць запчастак для сельскагаспадарчых машын. Зноў нямецкі камерсант апынуўся з мінусам. Але і гэта сцярпеў Юрген Кляйн, не парваўшы сувязей з нашай краінай, якая яму вельмі спадабалася. У далейшым упор быў зроблены на гуманітарную дапамогу — былое ў карыстанні адзенне, лекі, медыцынскае абсталяванне. Прычым частку гэтага грузу, па словах немца, ён аплачваў з уласнай кішэні.

Аднак не толькі з медустановамі кантактаваў Юрген Кляйн, прыязджаючы ў Гродна. Даўнім захапленнем гэтага чалавека, двухразовага чэмпіёна Германіі па стэндавай стральбе, удзельніка міжнародных спаборніцтваў, было паляванне. А паколькі сёе-тое з дзічыны ў Прынёманскім краі яшчэ засталося, госць з Германіі ў перапынку паміж справамі браў стрэльбу, патроны і ехаў з кампаніяй у лес. У гэтым яму пасадзейнічалі гродзенскі знаёмы Дзмітрый Клуйша і асабліва — старшыня ваеннага паляўнічага таварыства Віталь Смірноў.

Пікантнасць сітуацыі ў тым, што паляванне адбывалася ў пагранічнай зоне, аднак спецыяльнага дазволу органаў унутраных спраў і пагранвойскаў на знаходжанне там у Юргена Кляйна не было. Членам паляўнічага таварыства ён не з'яўляўся, ліцэнзій на адстрэл беларускага звера не купляў. Атрымліваецца, што з «блаславлення» спадара Смірнова толькі ў студзені сёлетняга года немец разоў 10 парушыў наша заканадаўства.

Дарэчы, спачатку Юргену Кляйну даводзілася пазычаць стрэльбу ў іншых паляўнічых. Па яго словах, гэта было нязручна па чыста гуманітарных меркаваннях. Бо забойства звера, тлумачыў ён у судзе, павінна адбывацца так, каб ахвяра доўга не пакутавала. А для гэтага патрэбна зброя, да якой чалавек прывычаіўся. Таму Юрген Кляйн і прывёз у Гродна свой вінчэстэр, схаваўшы яго ад мытнага кантролю ў багажніку аўтамашыны пад мяшкамі з медыкаментамі. А гэта кваліфікуецца як кантрабанда. «Я думаў, што наяўнасць нямецкага паляўнічага білета не патрабуе спецыяльнага дазволу на ўвоз зброі ў вашу краіну», — заявіў Юрген Кляйн у зале суда. Аднак няведанне закона, нават калі яно і мела месца, не вызваляе ад адказнасці за яго парушэнне. Ды і цяжка паверыць, што чалавек, разоў восем у год перасякаючы дзяржаўную мяжу Беларусі, не ведаў існуючыя правілы. А ім, хочацца таго альбо не, трэба падпарадкоўвацца.

Ужо пасля суда Гродзенская міжгарнізонная ваенная пракуратура накіравала прадстаўленне кіраўніцтву цэнтральнага савета Беларускага ваенна-паляўнічага таварыства. Смірнову аб'явілі строгую вымову. Пакаранне даволі мяккае, улічваючы тое, што без спецыяльнага дазволу ў пагранзоне, акрамя Юргена Кляйна, адпачывалі са стрэльбамі і 10 грамадзян Пакістана, якія вучацца ў Гродзенскім медінстытуце. За гэта простых смяротных зацягаюць па інстанцыях, аднак для людзей з грашыма — прывілея. Заплаціў за пуцёўку —і страляй, дзе хочаш. Можна і наогул не плаціць і замест гэтага, як Юрген Кляйн, падарыць паляўнічаму таварыству рацыю, прэзентаваць калегам па захапленню трохі патронаў...

Зрэшты, і паляванне ў пагранзоне, і схаваны ад мытнікаў вінчэстэр «засвяціліся» толькі тады, калі следства пачало раскручваць абставіны яшчэ адной акцыі, ажыццёўленай Юргенам Кляйнам. Пачалося з таго, што ён і кіраўніцтва Гродзенскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў абмеркавалі пытанне наконт пастаўкі гуманітарнай дапамогі ў міліцэйскую медслужбу. А затым Юргена Кляйна, як майстра спартыўнай стральбы, прывезлі ў цір таварыства «Дынама». Немец убачыў, што тут, дзе трэніруюцца не толькі юныя аматары, але і вядомыя на міжнароднай арэне спартсмены, не хапае самага элементарнага, нават навушнікаў для стральбы. Але галоўная бяда — страшэнны дэфіцыт пнеўматычных куль і дробнакаліберных патронаў. З просьбай аб іх набыцці намеснік старшыні Гродзенскага ФСР «Дынама» С. Гурын і звярнуўся да нямецкага камерсанта. Той абяцаў дапамагчы пры ўмове, што не ўзнікне праблем на мяжы. Па словах Юргена Кляйна, ажыццявіць гэту гуманітарную акцыю было вельмі няпроста. Ён дамовіўся са спонсарамі, арганізаваў візіт у Германію беларускіх спартсменаў.

Можна было б забіць адразу двух зайцоў: спартсмены ў выдатных умовах рыхтуюцца да Алімпійскіх гульняў, а фірма, прадукцыяй якой карыстаюцца вядомыя майстры, тым самым робіць сабе рэкламу. Аднак у вызначаны тэрмін беларускі бок аказаўся да гэтай паездкі не гатовы, і ў Юргена Кляйна ўзніклі праблемы са спонсарамі. Тым не менш, гуманітарны груз ён сабраў. «Таёта-Ланкрузер» з медыкаментамі і патронамі накіравалася ў рэйс. Як засведчыў у зале суда С. Гурын, 27 сакавіка яму патэлефанаваў Д. Клуйша (які выконваў абавязкі перакладчыка Кляйна) і паведаміў, што немец вязе для «Дынама» 5 тысяч дробнакаліберных патронаў і 15 тысяч пнеўматычных куль. 28 сакавіка на ўвоз гэтых боепрыпасаў быў атрыманы дазвол Міністэрства ўнутраных спраў, з якім на наступны дзень Гурын паехаў сустракаць госця. Аднак, не дачакаўшыся, ён пакінуў гэту паперу мытнікам на КПП «Брузгі». І калі Юрген Кляйн сюды дабраўся, яго чакала неспадзяванка: ніхто яго не сустракае.

Здавалася б, чаго хвалявацца, калі ўсё па закону? Навошта хаваць дазволенае пад мяшкамі з лекамі, наогул не заявіўшы польскім мытнікам аб астатняй частцы гуманітарнага грузу? Справа ў тым, што дакументы на правоз боепрыпасаў, узгодненыя не толькі з беларускім, але і польскім бокам, Юрген Кляйн павінен быў атрымаць не на КПП «Брузгі», а яшчэ ў Германіі. Аднак у палякаў ніхто дазволу не прасіў, а вышэйпамянёная папера з МУС Беларусі для іх — не ўказ. Гэта значыць, што ў поўнай адпаведнасці з польскім заканадаўствам камерсант з Эсэна мог апынуцца ў турме за кантрабанду.

На судовым працэсе дзяржаўны абвінаваўца пацікавіўся ў С. Гурына, ці разумеў ён, як рызыкаваў Кляйн, рухаючыся па тэрыторыі Польшчы. Аказваецца, вочы на гэта раскрыліся толькі цяпер, калі разгарэўся скандал.

Такім чынам, немца ў поўным сэнсе, як кажуць, падставілі. Але і сам ён — не бязвінная ахвяра дабрачыннасці. Зусім не выпадкова Кляйн так неахвотна дэманстраваў беларускім мытнікам свой гуманітарны груз. Бо пнеўматычныя кулі і дробнакаліберныя патроны, абяцаныя гродзенскаму ціру «Дынама», былі толькі часткай гэтага грузу. А астатнія боепрыпасы, прычым у вялікай колькасці, ніякага дачынення да спартыўнай зброі не мелі. Для каго ж яны прызначаліся? Гэта невядома і сёння. У ходзе следства і ў судзе ўдзельнікі гэтай акцыі з беларускага боку заявілі, што не маюць да іх ніякага дачынення. Маўляў, мы самі былі здзіўлены, што Кляйн прывёз значна больш таго, што абяцаў. Тым больш дзіўна, што ў той жа дзень, калі «Таёту-Ланкрузер» затрымалі на мытні, у Міністэрстве ўнутраных спраў афармілі дазвол і на тыя патроны, якімі спартсмены не карыстаюцца. Дзякуючы гэтай паперы Юргена Кляйна з мытні адпусцілі, але неўзабаве пачалося следства. Такая вось «палітыка».

Застаецца дадаць, што касацыйная скарга Юргена Кляйна на вынесены яму прыгавор Гродзенскім абласным судом адхілена. Канфіскаваныя боепрыпасы перададзены ў даход дзяржавы.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# СТАРЫЯ ПРАБЛЕМЫ МАЛАДОЙ СЯМ'І

**З Андрэем мы знаёмы не вельмі даўно, але неяк атрымалася, што проста прыяцельскія адносіны хутка перараслі ў сяброўскія, — часам гэта бывае пры ўзаемнай сімпатыі. А гэтымі днямі ён запрасіў мяне ў госці — пазнаёміцца з жонкай, як бывае, выпіць, пагаварыць пра жыццё-быццё. Што ж, з добрымі людзьмі і пасядзець не грэх: узяў я, як належыць, пляшку да стала, кветкі для гаспадыні ды шакаладку для сына і накіраваўся ў госці.**

Сустрэлі мяне душэўна, частавалі як блізкага сваяка. Лена, жонка Андрэя, аказалася выдатнай гаспадыняй і частавала нас проста каралеўскімі стравамі. Пра гэта асабліва прыемна ўспамінаць. Ну а пасля пераселі бліжэй да тэлевізара паглядзець-паслухаць, што ў свеце робіцца. Аднак размова, якая пачалася ў нас за сталом, паступова набрала такія абароты, што ў хуткім часе ўсе сусветныя праблемы адышлі далёка на задні план. Бо свая драпіна, як вядома, баліць намнога мацней, чым паламаная канечнасць у кагосьці іншага.

А загаварылі мы аб самым, здавалася б, звычайным — аб рабоце, жыллі, дзецях. Хоць, напэўна, самае звычайнае і ёсць самае важнае, паколькі ўсё наша жыццё праходзіць у няспынным вырашэнні дробных пытанняў, а калі наша жыццё складаецца з дробязей, то менавіта яны і з'яўляюцца самымі галоўнымі. Штосьці падобнае гаварыў нехта са старажытных мудрацоў, але шчыра скажу: да такой высновы я прыйшоў сам, гутарачы з маімі новымі сябрамі, Андрэем і Ленай.

Пачну па парадку. Пажаніліся яны пяць гадоў таму. Абодва да таго часу закончылі па чатыры курсы інстытута, але ў сувязі з тым, што Андрэй адслужыў у арміі, то быў на два гады старэйшы. Абое іншагароднія, а паколькі вучыліся ў розных інстытутах, то жылі спачатку як давядзецца. Часцей за ўсё ў інтэрнаце ў Андрэя: яго суседзі па пакоі з разуменнем ставіліся да маладых і часта начавалі ў іншых пакоях. Да канца пятага курса нанялі аднапакаёвую кватэру, адразу пасля абароны дыплома нарадзіўся сын, Слава. Студэнцкая бесклапотнасць змянілася новым этапам, дарослым і адказным. Адразу ж востра паўстала пытанне — дзе жыць?

— Дыплом пасля заканчэння політэхнічнага інстытута я атрымаў свабодны, — гаворыць Андрэй, — да гэтага часу не ведаю, добра гэта ці дрэнна, што не было абавязковага размеркавання. Аб тым, каб ехаць дадому, у Глыбокае, не магло быць і размовы. Там, у бацькоўскай двухпакаёвай кватэры, жылі яшчэ малодшыя брат і сястра. Ды і нармальную работу па спецыяльнасці я там наўрад ці знайшоў бы. Лена закончыла філфак Белдзяржуніверсітэта, і сітуацыя з жыллём у бацькоў прыкладна такая ж. Заставалася адно: паспрабаваць уладкавацца ў Мінску. Тут усё-такі магчымасцей знайсці работу і жыллё значна больш. Кватэру мы ўжо наймалі, добра, што бацькі на першым часе дапамагалі матэрыяльна. Спачатку мне пашанцавала: знаёмыя ўладкавалі інжынерам на завод «Інтэграл». Атрымліваў быццам нядрэнна, і хоць Лена сядзела ў дэкрэтным са Слаўкам, за кватэру плацілі своечасова і на прадукты хапала. Праўда, плаціў тады за кватэру намнога менш, чым цяпер, — 25 долараў. Жылі сціпла, прыкупілі сякуютакую мэблю, тэлевізар, халадзільнік, вядома, рэчы былі ўжо ў карыстанні, але працавалі нармальна. Зноў жа, суцяшалі нейкія надзеі, усё здавалася не такім ужо дрэнным. Аднак праз год такога жыцця я зразумеў, што перспектывы адыходзяць усё далей за гарызонт. Бацькі, якія працавалі на заводзе, засталіся практычна без работы, тонкі ручаёк фінансавай падтрымкі з іх боку поўнасцю высах. Бацькі Лены з самага пачатку не маглі нічым дапамагчы, паколькі на сваю жабрацкую зарплату школьных настаўнікаў ледзь маглі пракарміць сябе і малодшую дачку. Так што прыходзілася разлічваць толькі на сябе. Зарплата мая да таго часу на заводзе ператварылася ў нішто, трэба было тэрмінова шукаць новыя, больш істотныя крыніцы даходаў. Увогуле, атрымаў я пасведчанне прыватнага прадпрымальніка, пазычыў пяцьсот долараў і заняўся бізнесам.

— Пачакай, а як з прапіскай?

— А гэта асобная гісторыя. Для атрымання прапіскі я зрабіў не зусім зразумелы для нашых бацькоў крок — развёўся з жонкай.

— І што гэта дало? — не зусім зразумеў я.

— А тое, што для прапіскі неабходна для аднаго чалавека 12 метраў свабоднай жылплошчы. А для траіх, натуральна, 36 метраў. Зразумела, што аднаму ўладкавацца лягчэй. Вось і прыйшлося пайсці на фіктыўны развод.

— І што, дапамагло?

— Вядома. Праз два месяцы пасля разводу я па аб'яве знайшоў патрэбнага чалавека і прапісаўся ў яго за 70 долараў.

— Не вельмі дорага.

Дык і часы былі іншыя. Тады ж усё было таннейшым.

— А як жонка паставілася да разводу?

— А што было рабіць? — адазвалася Лена. — Трэба ж шукаць нейкае выйсце. А развод... На адзін штампік у пашпарце больш ці менш — якая розніца? У параўнанні з астатнімі праблемамі гэта такая дробязь.

— Зразумела, — кіўнуў я. — І як пайшоў бізнес? — зноў спытаўся я ў Андрэя.

— Ты ведаеш, спачатку добра. Напэўна, спрацавала правіла: навічкам заўсёды шанцуе. Вазіў з Масквы тавар, гандляваў на стадыёне «Дынама». Грошы зноў паявіліся, уздыхнулі з палёгкай. Надзеі ажылі, паявілася думка аб куплі кватэры. Тры гады таму, калі ты памятаеш, аднапакаёвая кватэра ў «спальных» раёнах Мінска каштавала 6-7 тысяч долараў. Тады здавалася зусім магчымай такая пакупка. Працаваў як звер, дзён не заўважаў...

— І што?

— А,— махнуў ён рукой. — Узяў дрэнны тавар раз, другі, пайшла чорная паласа, скрозь няўдачы. Даўгі нечакана ўсплылі. Быў такі перыяд, што страшна ўспомніць. Тут рэзка павысілася квартплата, гаспадар патрабаваў ужо 50 долараў у месяц. Шчыра скажу: такія думкі пачалі з'яўляцца, ворагу не пажадаеш.

— А як... засталіся на плаву? — крыху памаўчаўшы, спытаў я.

— Ды вунь дзякуй Лене, яна выратавала. Да таго часу Славіка ў садзік уладкавалі, і яна пайшла працаваць прадаўцом на Чэрвеньскі рынак. Хоць тут крыху пашанцавала, уладкавалася да добрага гаспадара. Стала сёе-тое зарабляць, прынамсі, за кватэру маглі заплаціць з яе заробку. Ну, мне стала крыху лягчэй, паціху распрадаў тавар па сабекошту, аддаў даўгі. І з таго часу перастаў займацца прыватнай камерцыяй.

— Што так?

— Ды зразумеў, што гэта не маё. І да таго ж, без добрага стартавага капіталу, без машыны і, што самае галоўнае, без свайго жылля, вельмі цяжка па-сапраўднаму знайсці сябе ў бізнесе. Няма асноўнай кропкі апоры, базы, і таму цяжка адчуваць сябе ўпэўнена ў такой актыўнай сферы дзейнасці, як прадпрымальніцтва. А можа, не аказалася ў мяне патрэбных якасцей. Не ведаю, ва ўсякім разе, з бізнесам я развітаўся.

— А чым заняўся?

— Пайшоў працаваць у фірму да свайго даўнейшага прыяцеля. Вось ужо паўтара года займаюся будматэрыяламі, амаль па спецыяльнасці. Работа добрая, стабільная, пачаў адчуваць сябе ўпэўнена. Справы ў фірме ідуць быццам бы нядрэнна, дай Бог, каб і надалей так.

— Прабач за нясціплае пытанне, колькі ты атрымліваеш?

— Цяпер 160 долараў у месяц. Жонка на рынку працуе не кожны дзень, але ў месяц 100—120 долараў выходзіць. Вядома, гэта не вялікія грошы, але на жыццё нам хапае. За кватэру плацім своечасова, на харчаванне стараемся грошай не шкадаваць. Ну, і сёетое застаецца для куплі адзення, бытавых прадметаў.

— Дык атрымліваецца, усё ў вас добра?

— Якое добра? — запярэчыў Андрэй. — Асноўнага — жылля — як не было, так і няма. І цяпер нават не магу сказаць, ці будзе наогул. Бліц-крыгу не атрымалася, грошай на куплю кватэры не зарабіў, ды і не зараблю з цяперашнімі цэнамі на жыллё. Так што не ведаю, на што спадзявацца.

— Але ж усё роўна штосьці думаеце ў гэтым напрамку?

— Думаем, а што толку? Паспрабаваць адкладваць грошы з зарплаты? Колькі я змагу рэальна накапіць? Капейкі. Не, гэта не выйсце.

— А ў чым выйсце па-твойму?

— А ў чым знаходзяць выйсце маладыя сем'і ў цывілізаваных краінах? У поўнай падтрымцы дзяржавы. Табе даецца крэдыт на куплю кватэры, дома, машыны, — чаго хочаш — пад залог гэтай маёмасці, і ты, у залежнасці ад плацежаздольнасці, паступова выплачваеш гэты доўг на працягу 15—25 гадоў. І гэта нармальна! Так і павінна быць. Дапусцім, мне не патрэбна машына, шыкоўная кватэра ў цэнтры горада ці асабняк у тры паверхі. Мая сям'я мае патрэбу ў звычайнай двухпакаёвай кватэры дзе-небудзь на ўскраіне Мінска. Па цяперашніх камерцыйных цэнах гэта будзе каштаваць 14-15 тысяч долараў. З разумнымі працэнтамі мы маглі б выплаціць гэтую суму за 20 гадоў, не вельмі сябе ўшчамляючы. І пры гэтым жылі б у сваёй кватэры! Але, на жаль, наш урад не працуе ў гэтым напрамку. Такое адчуванне, што праблемы маладых сем'яў наогул не існуе. Ствараецца ўражанне, што дапамога ў нашай рэспубліцы патрэбна толькі пенсіянерам і інвалідам. А хто дапаможа нам, маладым нармальным людзям? Чаго чакаць? На што спадзявацца?

— Але ж ёсць нейкія жыллёвыя праграмы, выходзілі ўказы аб ільготах...

— А, гэта толькі на словах. Існуючыя будаўнічыя кааператывы вельмі дарагія, ды і ненадзейныя. А пазыку нідзе не даюць. Праўда, застаецца прывідная надзея, што з цягам часу нешта вырашыцца, але надзея ёсць надзея, а на самай справе нічога няма. Таму так і жывём, сённяшнім днём, стараючыся не губляць гэтую самую надзею.

— Вось кажуць, — умяшалася Лена, — што нацыя вымірае, дзяцей не хочуць нараджаць. А хто іх будзе нараджаць, калі жыць няма дзе? Мы вунь гадуем аднаго, а пра нараджэнне другога і думаць страшна. Навошта, як кажуць, «галоту пладзіць»? Хоць бы Славіка на ногі паставіць — і то добра.

— Хоць бы што-небудзь дзяржава прыдумала, — гнуў сваё Андрэй. — Увялі б у строй прыватны жыллёвы сектар. Каб я быў упэўнены: пакуль плачу гаспадару — спакойна жыву ў наймаемай кватэры. А то вунь ужо трэцюю змянілі, не ведаю, колькі цяпер тут пратрымаемся.

— А колькі маладых сем'яў з-за гэтага распалася, — дадала Лена. — І сярод маіх знаёмых, і сярод сяброў Андрэя хапае тых, хто развёўся, не вытрымаўшы цяжару жыллёвых праблем.

Размова наша працягвалася доўга, так што я ледзь паспеў на апошні аўтобус. Зразумела, усё абмеркаваць не паспелі, таму што вельмі аб'ёмнымі ў размове аказаліся гэтыя простыя пытанні. Мне здаецца, многія чытачы нашай газеты маглі б унесці нямала дэталяў у гэты дыялог, якія аднолькава хвалююць усіх, каму прыходзіцца пачынаць свой шлях у жыцці. І я, напэўна, не памылюся, калі асмелюся заявіць, што праблемы менавіта маладой сям'і на сённяшні дзень у нашай рэспубліцы з'яўляюцца самымі надзённымі і патрабуюць неадкладнага вырашэння. Бо будучыня нацыі залежыць ад дабрабыту, у першую чаргу, маладой сям'і.

**Сяргей КУЛАКОЎ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 430

### АБ УНЯСЕННІ ДАПАЎНЕННЯ Ў ЧАСОВЫ ПАРАДАК НАРМАЛІЗАЦЫІ РАЗЛІКАЎ ПАМІЖ СУБ'ЕКТАМІ ГАСПАДАРАННЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Па ўзгадненню з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь частку першую пункта 4 Часовага парадку нармалізацыі разлікаў паміж суб'ектамі гаспадарання ў Рэспубліцы Беларусь, зацверджанага Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 5 кастрычніка 1994 г. № 135 і пастановай Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь ад 13 верасня 1994 г. № 17 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1994 г., № 7, арт.163), дапоўніць сказам наступнага зместу:

«Разлікі суб'ектаў гаспадарання з рынкамі за паслугі, што аказваюцца, могуць праводзіцца наяўнымі грашовымі сродкамі ў памеры, які перавышае 50 мінімальных заработных плат у месяц, у парадку, устаноўленым Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь».

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
**А.ЛУКАШЭНКА.**

21 кастрычніка 1996 г.
г.Мінск.

*Крымінал*

# Кола фартуны, Ці гісторыя адной крымінальнай справы

Незвычайным быў гэты працоўны дзень. Сушыла ў горле, бурчэла ў страўніку, ламала косці, а сэрца падказвала: збегай у магазін — палягчэе. Але якім чынам? Такую зусім не вытворчую задачу вырашаў абпальшчык АТ «Керамін» П. Хахлоў.

— Праз прахадную?

Ды там такія цэрберы сядзяць, ці ж ім зразумець, што чалавеку дрэнна?..

Падышоў Мікалай Зарэцкі.

— Што ты, сябар, нос павесіў? На абед не ідзеш, у даміно, як звычайна, не гуляеш?

— Які там абед! Не хлебам адзіным жывы чалавек... Ёсць, сябар, адзін сродак. Але як зрабіць так, каб гэты самы сродак у страўніку плёскаўся? Бо ў кішэні — хоць шаром пакаці.

— Слухай, ёсць ідэя! Загружаем абліцовачнай пліткай электракар — і за прахадную. А вартаўніку скажам, што да будаўнікоў едзем.

— Не, гэты варыянт не пройдзе, не паверацъ.

— Тады праз агароджу перакінем, а гараж мой пад рукой...

Так распрацоўваўся ў рабочы час праект зусім не вытворчага характару. Далей падзеі разгортваліся як у вострасюжэтным прыгодніцкім фільме.

Выцягнуўшы з «загашніка» прыгатаваную для рэалізацыі плітку, яны пачалі загрузку. Па прычыне таго, што часу было ў абрэз (не дай Бог, майстар выявіць адсутнасць), на дапамогу прыйшлі яшчэ два аматары прыгожага жыцця. Удала разгрузіўшыся, яны вырулілі з цэха і ўзялі курс у напрамку да асабістага гаража Хахлова. А гэта ні многа ні мала — адзін кіламетр. Хахлоў гнаў адзін, без Зарэцкага, каб было хутчэй, каб не прыцягваць увагу. Ён так цісnуў, што людзі, якія трапляліся па дарозе, шарахаліся ва ўсе бакі і глядзелі на электракар, як на цуда накшталт лятаючай талеркі. А здзіўляцца было чаму. Згадзіцеся, не часта можна бачыць загружаны даверху электракар, што нясецца па тэрыторыі завода на шалёнай скорасці, у той час як на кожным кроку папераджальны знак: скорасць руху — 5 кіламетраў у гадзіну. Хахлову было напляваць і на знакі, і на тое, што падумае майстар па прычыне яго адсутнасці на рабочым месцы. На ўсім некароткім шляху ён не сустрэў нікога з тых, каму быў бы неабыякавы лёс роднага прадпрыемства. Словам, кола фартуны было ў руках Хахлова.

Ён ужо ў думках прыкідваў суму, якую пакладзе сабе ў кішэню, колькі аддасць калегам, а перад вачамі час ад часу ўзнікаў поўны набор «чарніла» і іншых, зусім не канцылярскіх, але хадавых «тавараў». Падаспеўшыя калегі дапамаглі з разгрузкай, і новенькая плітка апынулася ў гаражы Хахлова. Але аматарам лёгкай нажывы гэтага аказалася мала..

Праз нейкі час яны зноў «пайшлі на справу». І ўсё пайшло б па ранейшаму сцэнарыю, калі б не адно «але»... У час перагрузкі пліткі ў гараж Хахлова па вуліцы Сярова праязджала машына супрацоўнікаў АБЭЗ Кастрычніцкага РАУС. Група раскрадальнікаў была затрымана.

Як паказала следства, на працягу тыдня пры дапамозе электракара з цэха было выкрадзена 746 скрынак абліцовачнай пліткі на агульную суму 50 мільёнаў рублёў.

Па факту крадзяжу ўзбуджана крымінальная справа, следству трэба паставіць у ёй апошнюю кропку.

(У інтарэсах следства прозвішчы ў матэрыяле зменены.)

**Антон ВЫРВІЧ.**

*...Падрабязнасці*

## ЛЕС СЯКУЦЬ...

**Беларускія лясы і дубравы — адна з састаўных нашага агульнанацыянальнага багацця. Якое, як вядома, не такое ўжо і вялікае. Таму рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў увогуле і ляснога фонду — у прыватнасці ўяўляецца спецыялістам Міністэрства эканомікі адным з прыярытэтных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі.**

Адна справа —нарыхтаваць пэўную колькасць драўніны, зусім іншая — добра прадаць. Менавіта з продажам узнікаюць праблемы: так, у бягучым годзе для рыначнага продажу праз аўкцыёны ў лясах Мінлясгаса прадугледжана было рэалізаваць 1492 тысяч кубічных метраў лесасечнага фонду (ці 30 працэнтаў ад агульнага аб'ёму). Паводле апошніх даных, зараз прададзена толькі 22 працэнты ад запланаванага, у мінулым годзе гэтыя лічбы склалі толькі 4,4 працэнта (пры заданні 10). Такім чынам, сёлета плануецца давесці аб'ём продажу драўніны да 1124 тысяч кубаметраў (супраць запланаваных 1492).

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*Рэпарцёр атрымаў заданне...*

# ...«скінуць» лішнюю вагу

**Прадстаўніц чароўнай паловы звычайна не спыняюць ніякія перашкоды пры дасягненні мэты. Каб дабіцца свайго, яны гатовы пайсці на розныя ўмовы, хітрыкі, абмежаванні. Асабліва калі размова ідзе аб знешнасці. У гэтым сэнсе фігура — самае балючае пытанне. Схільныя да паўнаты мужчынам падабаюцца, як і стройныя, а вось попыт на поўных і вельмі поўных прыгажунь значна ніжэйшы. Вось і змагаюцца жанчыны, можна сказаць, за сваё шчасце рознымі метадамі.**

На заняткі спортам і садысцкія дыеты многія сёння глядзяць як на перажытак мінулага. Тым больш, калі газеты стракацяць заклікамі: «Канчай з дыетамі!» Нават самая змрочная песімістка пацікавіцца спосабамі хуткага пахудзення па прынцыпу «мы сядзім, а грошыкі ідуць». Аднойчы не ўтрымалася і я.

З аб'явы аб цудадзейным біямагнітным сродку, з дапамогай якога можна «скінуць» аж 2 кілаграмы і ўсяго за суткі, я так і не зразумела, што гэты сродак сабой уяўляе. Але ж аргументы прыводзіліся настолькі пераканаўчыя, што сума ў 99 тысяч 900 рублёў выглядала дробяззю за такую унікальную прапанову.

Паведамленне з паштовага аддзялення аб бандэролі на маё імя прыйшло хутка. Унікальным сродкам, карыстанне якім, паводле рэкламнай аб'явы, прыносіць ашаламляльныя вынікі, аказалася... кліпса. Жоўценькая такая, металічная. А да яе інструкцыя па карыстанню прыкладаецца. Насіце 6 гадзін у дзень і заўважайце ў люстры, як мяняецца ваша фігура. Праўда, тая ж інструкцыя напамінае: пабольш рухайцеся, выпівайце перад ядой шклянку вады, ужывайце неабмежаваную колькасць садавіны і агародніны. Гэты ж біямагнітны сродак дапамагае і ад нервознасці, і ад бяссонніцы, і ад прывычкі курыць можна пазбавіцца. Зноў жа, пры выкананні правілаў, як прымаць супакойлівыя ванны з травянымі адварамі перад сном і не насіць з сабой запалак і цыгарэт. Зрэшты, можа, кліпса і сапраўды зніжае апетыт, бо як надзенеш яе, адчуваеш толькі боль — здаецца, што вуха ў цісках. Шкада, не паспела я ад нервознасці пазбавіцца, бо глядзець на распухлае чырвонае вуха без слёз не магла, а таму спрабавала ціск аслабіць і ў выніку зламала кліпсу наогул.

Нягледзячы на поўную адсутнасць станоўчых вынікаў ад эфектыўнага метаду, я вырашыла ўсё ж паспрабаваць яшчэ раз. Цяпер мой выбар выпаў на кадзіраванне. Усяго і цяжкасцей, што пагаладаць 36 гадзін перад сеансам ды заплаціць 700 тысяч. Затое цягу да салодкага, тлустага як рукой здымае. Аж адварочвае цябе ад усяго смачнага. Калі не ўдавацца ў падрабязнасці гэтай працэдуры, то класіфікаваць яе можна так: праз церні я прайшла, нават зоркі ўбачыла, але так і не пахудзела. Доктар папярэджвала, што як гляну ў бок салодкага, мучнога, мне адразу дрэнна зробіцца. Нічога падобнага не здарылася. Ласункі як былі смачнымі і жаданымі, такімі і засталіся.

І ўсё ж я чалавек упарты. Патэлефанавала па аб'яве «дапамагу знізіць або набраць вагу (з асабістага вопыту)». Высветлілася, што асабісты вопыт заключаўся ў прыняцці спецыяльнага харчавання з адначасовым ужываннем сродкаў з тыбецкіх траў. Тройчы ў дзень гэта ўсё прымаеш на працягу месяца — двух кілаграмаў недалічваеш. Курс абыходзіцца ў 100—150 долараў. І сума мяне збянтэжыла, і ў эфектыўнасці гэтага спосабу я засумнявалася.

Зрэшты, як і ў эфектыўнасці масажу, за адзін сеанс якога абяцаецца змяншэнне аб'ёмаў аж да 5-6 сантыметраў. Ні ў якім разе не хачу абвінавачваць у нядобрасумленнасці тых, хто прапануе суперсродкі. Але ж, напэўна, павінны праводзіцца нейкія тэсты, кансультацыі на прадмет рэзультатыўнасці прымянення сродку ў кожным выпадку. А то аплата ўперад, а вынікі — як Бог дасць.

У рэшце рэшт я зрабіла вывад, што займацца спортам ды адмаўляць сабе ў жаданні з'есці цукерку — самы эфектыўны спосаб пахудзець.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**


*Мы даём Вам галоўнае – інфармацыю!*

**Выпісвайце! Чытайце! БЕЛАРУСКУЮ ГАЗЕТУ «ЗВЯЗДА»**

*Удзельнічайце! Выйгравайце!*

**Тавары народнага спажывання,**

*а таксама наш галоўны прыз*

**КОНЬ з вупражжу і калёсамі**

**(толькі для тых, хто аформіў падпіску на паўгода).**

**КОШТ ПАДПІСКІ**

на паўгода — 83.400 рублёў для індывід. падп.,
90.000 рублёў для ведамасн. падп.,
на тры месяцы — 41.700 руб. для індывід. падп.,
45.000 руб. для ведамасн. падп.,

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС у каталогу Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь**
**63850 — для індывідуальных падпісчыкаў,**
**63239 — для ведамаснай падпіскі.**

*Заставайцеся з намі!*


*Падпіска-97*

## Слова прызнання нашых чытачоў

Я хачу падзякаваць вам, паважаная рэдакцыя, за дапамогу. Пісала вам і атрымала адказ з народнага суда Лагойскага раёна, хоць ён мяне і не задаволіў. Але ж я яго атрымала, дзякуючы менавіта вам.

На жаль, ведаю, што ў некаторых газетах ніякага адказу сваім чытачам не даюць.

І я цяпер буду ведаць, дзе мне дапамогуць. Калі мне што спатрэбіцца, заўсёды з радасцю звярнуся да вас па дапамогу.

Вялікі дзякуй, што ёсць такія газеты, як «Звязда»!

**Галіна РАСІНСКАЯ.**

*в. Сліжана, Лагойскі раён.*

Ведайце, што як мне ні было б цяжка, але газету «Звязда» я выпішу на паўгода, хоць і заплачу амаль палову пенсіі. Кажуць, хутка будуць даваць зарплату ў калгасе, так што пратрымаемся.

Наогул, ваша газета мне вельмі падабаецца, асабліва парады па агароду і саду, розныя рэцэпты хатняй гаспадыні. І выпісваю «Звязду» ўжо больш пяці гадоў.

**З павагай**
**Валянціна ШЫЛА, маці чацвярых дзяцей.**

*Мінская вобласць.*

*Чалавек — чалавеку*

## Не, грошы мне не патрэбны...

З вялікай цікавасцю чытаю вашу газету. Але напісаць адважылася ўпершыню. Справа ў тым, што ў мяне ўжо больш няма сіл так далей жыць. І я хачу, калі можна, звярнуцца праз ваша выданне да людзей. Так атрымалася, што ў свае 20 гадоў я засталася без мужа і з 2 дзецьмі (у мяне двайняты — дзяўчынка і хлопчык).

Цяпер, вядома, для ўсіх нялёгкі час. Але мне грошай не трэба, я проста хачу папрасіць, можа, у каго засталіся дзіцячыя рэчы для маіх дзяцей (дзецям па 7 месяцаў). Асабліва патрэбны паўзункі, кофтачкі, шапачкі і што-небудзь з верхняга адзення. Узамен магу выслаць замовы ці парады народнай медыцыны (лячэнне травамі). За перасылку адпраўленых рэчаў аплачу. Загадзя вялікі вам усім дзякуй.

***P.S.** На жаль, аўтарка гэтага пісьма не ўказала ні свайго імя, ні прозвішча. Адно, што яна паведаміла для рэдакцыі, дык гэта такі кароткі адрас: 231210, Гродзенская вобласць, г. п. Астравец, п/с № 203, да запатрабавання.*

***Што ж, нават у такім разе, калі хто-небудзь з нашых чытачоў можа дапамагчы гэтай гаротнай маладой адзінокай маці, то, калі ласка, пачуйце яе просьбу і зрабіце так, як яна просіць. Нездарма кажуць, што свет не без добрых людзей.***

## ІНВАЛІДЫ — НЕ ІЗГОІ ГРАМАДСТВА

**29-30 кастрычніка ў Мінску пройдзе Міжнародная канферэнцыя «Медыцынская, сацыяльная, прафесіянальная рэабілітацыя хворых і інвалідаў».**

Канферэнцыя праводзіцца па рашэнню Рэспубліканскага міжведамаснага Савета па праблемах інвалідаў Рэспублікі Беларусь.

Сярод яе ўдзельнікаў Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь, Беларускае таварыства інвалідаў, Беларускае таварыства інвалідаў па зроку, Беларускае таварыства глухіх, Бонскі неўралагічны рэабілітацыйны цэнтр, Беларускі НДІ экспертызы працаздольнасці і арганізацыі справы інвалідаў, Мінскі міжнародны адукацыйны цэнтр.

На канферэнцыі мяркуецца разгледзець комплекс пытанняў, што датычацца медыцынскай, сацыяльнай і прафесіянальнай рэабілітацыі хворых і інвалідаў, аднаўлення іх працаздольнасці, інтэграцыі ў жыццё грамадства.

Вядома, што пра грамадства ў цэлым мяркуюць па тым, як яно ставіцца да інвалідаў і хворых людзей. Апошнім часам на Беларусі ўсё большую ўвагу звяртаюць на праблемы інвалідаў. Пацвярджэннем таму — чарговая Міжнародная канферэнцыя ў гэтай галіне.

**Сяргей ПРОТАС.**

## НАВІНЫ ДРУКАВАНАЙ ПРАДУКЦЫІ

**Нядаўна ў Музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя календароў-плакатаў «Старажытная Беларусь» і «Уладары старажытнай Беларусі» і кнігі Георгія Штыхава «Гісторыя Беларусі ў сярэднія вякі».**

Каляндар на два наступныя гады ўяўляе сабой плакат, на адным баку якога — карта Вялікага княства Літоўскага часоў князя Вітаўта — найбольшага росквіту дзяржавы, а на другім — партрэты трыццаці васьмі вялікіх князёў, якія ўладарылі на нашай зямлі. Пантэон пачынаецца з полацкага князя Рагвалода і заканчваецца выявай Станіслава Аўгуста Панятоўскага, апошняга караля Польскага і Вялікага князя Літоўскага. Плакат зроблены на грамадскіх пачатках пры фінансавай падтрымцы касцёла св. Сымона і Алены.

Кніга Георгія Штыхава была задумана як падручнік для 6 класа, які заменіць свайго папярэдніка, выпушчанага некалькі гадоў назад у мяккай вокладцы і без ілюстрацый. Новы падручнік у цвёрдай вокладцы з каляровымі малюнкамі стане, на думку аўтара, дастойнай заменай, нягледзячы на некаторыя папраўкі ў асобных артыкулах. Рыхтуецца да выхаду яшчэ адзін дапаможнік па гісторыі, які заменіць падручнік для 4 класа, што ўжо не раз крытыкаваўся з-за дрэннай якасці і нізкага ўзроўню падачы матэрыялу.

Мяркуецца, што плакаты-календары будуць распаўсюджаны па бібліятэках і іншых культурных установах. А новы падручнік ужо паступае ў школы.

**Гражына КАВАЛЕЎСКАЯ.**

